# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
*Якуб КОЛАС*

**№ 8 (3851)**

31 студзеня 2014 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.


**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

БЕЛАРУСЬ—ЕЎРОПА

## Вызваліць!

*Еўрапейскі Саюз менавіта так ставіць пытанне перад уладамі Беларусі па праблеме палітзняволеных.*



Пра гэта заявіў кіраўнік дэпартамента палітыкі, інфармацыі і прэсы прадстаўніцтва ЕС у Беларусі **Рудольф Рышар** 29 студзеня ў Мінску падчас “круглага стала” на тэму беларуска-еўрапейскіх адносін пасля вільнюскага саміту “Усходняга партнёрства”.

*«Для поўнага наладжвання адносін ёсць некаторыя ўмовы, якія дагэтуль не вырашаны. Тут з нашага боку я магчымасці для кампрамісу не бачу. Калі пэўныя рашэнні не будуць прыняты, складана будзе штосьці рабіць з нашага боку»,* — падкрэсліў Рышар.

Начальнік аддзела ЕС і субрэгіянальных арганізацый упраўлення агульнаеўрапейскага супрацоўніцтва беларускага МЗС **Алег Шлома,** каментуючы праблему палітзняволеных, адзначыў: «Гэта пытанне на слыху».

*«Будзем рэалістамі. Прачнуўшыся заўтра, нават калі гэтыя людзі выйдуць з турмаў, мы не ўбачым, што мы сталі добрымі сябрамі з Еўрасаюзам, на нас пасыпаліся еўрапейскія грошы і мы сталі любімчыкамі Еўрапейскага Саюза. Занадта шмат негатыву сабралося, патрэбны час і сумесныя намаганні, каб яго пераадолець,* — адзначыў прадстаўнік МЗС.

ЧУЛІ?

## Яшчэ адзін падатак?

У Савет міністраў паступіў дакумент, у якім дэпутаты Палаты прадстаўнікоў прапануюць абкласці дадатковым падаткам усе тавары, увезеныя ў Беларусь з-за межаў Мытнага саюза. Гэта значыць усе імпартныя тавары, акрамя расійскіх і казахскіх.

Прапанову «працiскае» старшыня пастаяннай камісіі па эканамічнай палітыцы **Віктар Валюшыцкі.** Ён прапанаваў увесці падатак з продажу імпартных тавараў. Аргумент наступны: маўляў, беларускія тавары стануць больш канкурэнтаздольнымі і будуць лепей прадавацца. Вось толькі ці трэба быць эканамістам, каб выступаць з такімі прапановамі? Можа, лепш дэпутатам сканцэнтраваць намаганні на прапановах па зніжэнні сабекоштаў тавараў беларускай вытворчасці і значным павышэнні іх якасці? Гэта і будзе сапраўдная эканамічная палітыка, а не імітацыя дзейнасці.

ЦЭНЫ

## Нярадасная пастанова

Па крайняй меры так лічаць эксперты, якія азнаёміліся з пастановай Міністэрства эканомікі аб выключэнні цэлай лінейкі тавараў з пераліку сацыяльна значных, на якія ўстаноўлены гранічныя максімальныя надбаўкі.

Дакументам здымаецца абмежаванне на гандлёвую надбаўку на субпрадукты з ялавічыны і свініны (да гэтага часу была ўстаноўлена максімальная надбаўка 17%); вараныя каўбасы, сасіскі і сардэлькі (12%); субпрадукты курыныя (18%). Са спісу сацыяльна значных тавараў таксама выключаны: масла сметанковае без напаўняльнікаў (15%); алей сл анечнікавы і рапсавы (15%); мука пшанічная (20%); рыс белы шліфаваны, проса, грэцкія, манныя, ячныя і аўсяныя крупы, а таксама некаторыя макаронныя вырабы. Акрамя таго, сацыяльна значнай больш не лічыцца рыба (сямейства карпавых) і рыба свежамарожаная (сямейства карповых, трасковых, селядцовых, скумбрыевых, аргенцінавых).

АФІЦЫЙНА

## Уцякаюць медыкі

Міністр аховы здароўя **Васіль Жарко** нарэшце прызнаў факт адтоку кваліфікаваных урачоў за межы краіны. «Нам трэба пераламаць гэтую сітуацыю», — падкрэсліў міністр. Пры гэтым ён адзначыў, што праблему працоўнай міграцыі беларускіх медыкаў «можна вырашыць двума спосабамі — павелічэннем заработнай платы і рашэннем жыллёвай праблемы».

Паводле слоў міністра, сярэдні заробак у галіне складае каля 3,8 мільёна рублёў, ва ўрачоў з улікам даплат — больш за 6 мільёнаў, у сярэдняга медыцынскага персаналу — каля 3 мільёнаў.

АДКРЫТЫ ЛІСТ

*Прэзідэнту*
*Рэспублікі Беларусь*
*А.Р.Лукашэнку*

## Наспеў час...

*(З нагоды прамовы на ўрачыстай цырымоніі ўручэння прэмій “За духоўнае адраджэнне” 9 студзеня 2014 года.)*

Паважаны Аляксандр Рыгоравіч!

Ваша прамова — новае слова ў беларускай унутранай палітыцы, паварот да пытанняў нацыянальнага духоўнага развіцця грамадства і краіны, што гістарычна, лагічна і культурна абумоўлена; спадзяёмся, за словамі пойдуць і справы.

*“В нашей культуре,* — сказалі Вы, *— отчетливо видны следы влияния и русской, и западноевропейских, и азиатских культур. Но при этом мы всегда сохраняли свою идентичность. Где больше, где меньше, но в мире нас знают как белорусов, и это дорогого стоит”.* Згодны, і гэта дае нам падставы нагадаць пра калектыўны зварот да Вас пяцігадовай даўніны.

Захаванню ідэнтычнасці, як нішто больш, спрыяе родная мова, яна — вышэйшы духоўны скарб народа, і не выпадкова некаторыя сусветна вядомыя філосафы і гісторыкі пры вызначэнні нацыі называюць спалучэнне: зямля + мова. Ёсць і іншае: мова — дом нацыянальна-духоўнага быцця.

Вы слушна зазначылі: *“Власть и интеллигенция на равных в ответе за страну”.* Менавіта з гэтакіх меркаванняў мы і зыходзілі, калі ў 2009 годзе распачалі і правялі збор подпісаў у абарону і адраджэнне беларускай мовы. Наш зварот да Вас асабіста і да кіраўнікоў розных высокіх устаноў быў слушны, пераканаўчы і аўтарытэтны, пад ім паставілі свае подпісы акадэмікі У.В.Гніламёдаў, Я.М.Бабосаў, М.П.Касцюк, Г.М.Лыч, А.П.Вайтовіч, Р.Г.Гарэцкі, П.Г.Нікіценка, І.В.Гайшун, члены-карэспандэнты Л.Ф.Яўменаў, С.С.Лаўшук, А.М.Булыка, Э.М.Сарока, народныя мастакі, артысты і пісьменнікі У.І.Стэльмашонак, Л.Д.Шчамялёў, А.М.Кашкурэвіч, В.П.Шаранговіч, Р.І.Барадулін, М.П.Дрынеўскі, В.І.Гаявая, філосаф М.І.Крукоўскі, архітэктар Л.М.Левін, святары-протаіерэі Сергій Гардун, Георгій Латушка, сын Якуба Коласа — М.К.Міцкевіч, шмат іншых вучоных, заслужаных дзеячаў культуры, асветы — усяго 180 чалавек, а з цягам часу і 3000 асоб рознага роду заняткаў падпісалі зварот. Пра важнасць дыскурсу засведчыў жывы і актыўны абмен лістамі, частка якіх друкавалася ў “Народнай Волі”.

Няўрокам кажучы, трывогу сваіх грамадзян належным чынам ўспрынялі ў Адміністрацыі Прэзідэнта, Савеце міністраў, Савеце Рэспублікі і Палаце прадстаўнікоў... У Адміністрацыі Прэзідэнта, напрыклад, правялі нараду з міністрамі, а потым тагачасныя кіраўнік Адміністрацыі У.У.Макей і прэм’ер-міністр С.С.Сідорскі падпісалі спакваля падрыхтаваны дакумент аб паступовым (паэтапным) вяртанні грамадства да беларускай мовы. Мала таго, у Савеце Рэспублікі Нацыянальнага сходу паставілі было ў план падрыхтоўкі законапраектаў на 2010 год карэкціроўку Закона аб мовах. Аднак усё гэта не знайшло належнага свайго завяршэння... На жаль. Памятаеце, як на апошнім Усебеларускім сходзе велізарная адухоўленая зала дружна апладзіравала Ніне Савінавай, ураджэнцы Маларыцкага раёна, дэлегатцы ад беларусаў Эстоніі; звяртаючыся да залы і да Вас, шаноўны, яна з роспаччу загаварыла пра стан роднай беларускай мовы на Бацькаўшчыне?.. І атрымліваецца ўжо, што народ з разуменнем ставіцца да быцця сваёй роднай мовы, толькі ж хтосьці ў Беларусі дзейнічае насуперак волі і ўладных структур, і народа. Ці ж не так, Аляксандр Рыгоравіч?

Абапіраючыся на духоўны патэнцыял шматлікіх абаронцаў і прыхільнікаў роднага слова, пераканаўча прашу Вас вярнуцца да нашага звароту аб мове 2009 года, бо ён і сёння нiколькі не страціў сваёй актуальнасці. Наспеў час. Родная мова стане яшчэ адной з важных перадумоў патрыятычнага выхавання і *«объединения всех граждан белорусской идеей, в которую поверят все — от академика до крестьянина».*

**З павагай —**
**Васіль ЯКАВЕНКА,**
**пісьменнік,**
**каардынатар ініцыятывы**
**“Інстытут нацыянальнай памяці”.**

НАДВОР’Е

## Апранайцеся цяплей!

Экстрэмальныя маразы скончацца сёння-заўтра, але марознае надвор’е захаваецца да канца наступнага тыдня.

Як паведамляюць сіноптыкі, ад нядзелі тэмпература знізіцца да мінус 7—12°С на поўдні краіны, мінус 10—15°С у цэнтры, мінус 14—19°С на Падняпроўі.

А вось адлігі метэаролагі не чакаюць раней за 8—10 лютага. Тады мяккі цыклон прынясе тэмпературу каля нуля. Аднак разам з адлігай чакаецца і сёлетні грып.

ЛОБ У ЛОБ

## Гульня ў апазіцыю

Ліберальна-дэмакратычная партыя Беларусі заявіла аб жаданні паўдзельнічаць у абранні адзінага кандыдата ад апазіцыі і прапануе на гэтую ролю свайго вылучэнца — **Сяргея Гайдукевіча**.

«Калі яны (апазіцыя) не захочуць нас пусціць на Кангрэс дэмакратычных сіл, мы ўсё роўна прыйдзем і выступім там. Возьмем актыў партыі – 50—100 чалавек — і прыйдзем. Калі не захочуць, значыць, баяцца, — заявіў намеснік старшыні ЛДП **Алег Гайдукевіч**. — Чаму мы не маем права прыйсці на гэты кангрэс? Гэта ж кангрэс дэмакратычных сіл, а мы — дэмакратычная сіла».

## ... і гаворкі быць не можа

«Гайдукевіча рэгістравалі на кожных так званых выбарах. Пасля таго, як на выбарах адбываліся фальсіфікацыі, Гайдукевіч паціскаў руку Лукашэнку і віншаваў яго быццам бы з перамогай. Ясна, што гэта людзі, якія гуляюць у адну гульню з дзеючай уладай і не з’яўляюцца апазіцыяй», — так пракаментаваў словы Гайдукевіча-малодшага адзін з ініцыятараў склікання Кангрэса дэмакратычных сіл для абрання адзінага кандыдата ад апазіцыі на прэзідэнцкіх выбарах, сустаршыня аргкамітэта па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя» **Павел Севярынец**.

«Ніякай гаворкі тут не можа быць аб дэмакратыі, апазіцыйнасці і гэтак далей», — катэгарычна заявіў Севярынец.

ДАРЭЧЫ

Рашэнне аб правядзенні Кангрэса дэмакратычных сіл яшчэ не прынята, таму не вядома, ці адбудзецца ён увогуле. Хаця шэраг дэмакратычных сіл — у першую чаргу ініцыятары кампаніі “Народны рэферэндум” — яе ўжо падтрымалі.

УКРАИНА: ЧТО ТАМ?

## Хрупкое перемирие

Последние пару дней в Украине наступило относительное затишье. Откровенных затяжных стычек между правоохранительными органами и протестующими не происходит. Все участники конфликта в ожидании, к чему приведет переговорный процесс.

На сегодняшний день власть сделала первые шаги для урегулирования конфликта. Скандальные законы, принятые 16 января, всколыхнувшие в очередной раз Украину и приведшие к человеческим жертвам, отменены. Спикер парламента Украины подписал это решение Верховной Рады, и сейчас все ждут подписи президента Виктора Януковича.

Парламентарии также приняли Закон об амнистии участников мирных демонстраций. Хотя, честно говоря, не совсем понимаю, зачем амнистировать мирно протестующих граждан, если они и так ни в чем не виноваты? Фактически власть подтверждает, что эти люди взяты ими в заложники. И их готовы отпустить после того, как будет снята блокада административных зданий и разблокированы улицы по всей Украине. Оппозиция проигнорировала голосование Закона об амнистии. Она утверждает, что с ними проект закона никто не согласовывал. На сегодняшний день протестующие покинули только захваченные здания министерств. Освобождать захваченные администрации и улицы пока не спешат.

Власть Украины за последние дни значительно утратила доверие. Да и как можно доверять власти, которая не привлекает к ответственности садистов в милицейской форме, а пытается найти и наказать тех сотрудников милиции, которые выкладывают в сеть видеофакты издевательств над взятыми властью заложниками. Как можно доверять власти, которая для своей защиты использует нанятых ею полукриминальных элементов, которые под прикрытием милиции избивают граждан и журналистов, похищают активистов (на сегодняшний день нет никаких сведений приблизительно о 30 людях), поджигают и уничтожают автомобили (только за прошедшую ночь в Киеве сожжено около 20 автомобилей со львовскими номерами).

Премьер-министр Николай Азаров подал в отставку, и президент ее принял. Но вот оппозиционные лидеры отказались возглавить новое правительство. Отказались по той причине, что не хотят брать на себя ответственность за экономику страны. Оппозиционные лидеры оказались не готовыми и неспособными вывести Украину из политического и экономического кризиса, вызвав тем самым непонимание со стороны своих западных партнеров. В бюджете страны денег нет. Россия снова начала экономически шантажировать Украину. Со вторника на российской границе опять начались проблемы с украинским товарным экспортом. Россия уже заговорила о приостановке выделенного ею кредита, а дальше примет решение в зависимости от того, какое правительство будет сформировано. Владимир Путин ждет освобождения Юлии Тимошенко.

***(Окончание на 5-й стр.).***



ПО ПОВОДУ



*Мария ЭЙСМОНТ*

## Нездоровье

*«Люди не понимают реальной стоимости медицинских услуг», — заявил на коллегии Минздрава вице-премьер Анатолий Тозик. И высказал мнение, что «необходимо провести глубокую системную оптимизацию», мол, те же люди «должны софинансировать оказываемую им бесплатную медпомощь». Проще говоря, платить, платить и еще раз платить.*

С тем, что оставшаяся нам в наследство с советских времен система организации здравоохранения привила нездоровое отношение к медицинскому обслуживанию, вряд ли поспоришь. Каждый знает примеры, когда звонят в «скорую» по пустякам или вызывают врача на дом не потому, что серьезно заболели, а чтобы не идти в поликлинику и не сидеть в очереди у кабинета врача.

Но есть и другие примеры: некоторые люди вообще не ходят к врачам, пока уж совсем не прижмет, лечатся сами, чтобы не сидеть в этих самых очередях, не стоять за талончиком, не ехать черт знает за сколько километров к доктору... Так почему мы должны софинансировать то, что нас не устраивает? Доплачивать за очереди, за неудобства, за то, что у врача на нас 10 минут времени, что «скорая», приезжая по вызову, не всегда имеет под рукой необходимые препараты, и т.д. и т.п.

Что и говорить, ситуация в медицине тупиковая или почти тупиковая: пациенты недовольны качеством медицинской помощи, врачи оскорблены оценкой их труда государством. Но что могут предложить чиновники? Если послушать Анатолия Тозика, то рецепт один: заставить народ больше платить за медицинские услуги.

А может, прежде чем требовать с народа, начать надо с себя?

Почему никто и никогда не говорит о чрезмерной армии чиновников в системе здравоохранения? Все эти облздравотделы, горздравотделы, наконец, раздутый аппарат Минздрава? Чем они заняты? Какая от них польза? Жалобы от пациентов принимают? Так на них все равно очень часто отписки приходят. Сократили бы эту прослойку в общем-то бездельников — и высвободилось бы огромное количество денежных средств, которые пошли бы в том числе и на медицинское обслуживание населения. И вопрос с кадровым дефицитом в какой-то мере решился бы. Кто-то из врачей подсчитал, что если на 20 процентов сократить чиновничий аппарат в медицине и направить этих сотрудников работать непосредственно в медучреждения Минска, то в столице проблема нехватки врачебных кадров будет решена. Сокращение числа чиновников от медицины на 25% позволит обеспечить врачами как минимум столицу и Минскую область, где наиболее остро ощущается этот самый дефицит.

Хотелось бы спросить у Анатолия Тозика: сам он где лечится? В какой поликлинике обслуживается? Уж наверняка не по месту жительства. Вряд ли стоит в таких же длинных очередях на диагностику, элементарную ЭКГ, как простые смертные. У «слуг народа» в Беларуси есть своя клиника. И, что самое удивительное, именно сейчас, когда со всех сторон слышится критика в адрес медицины и даже Анатолий Тозик заговорил о том, что отрасль в шаге от деградации, принято решение о строительстве новой спецбольницы для чиновников. Ее хотят вынести за город, в лесной массив под Ждановичи. Видимо, чтобы не мозолила глаза простым людям. На строительство новой клиники, по предварительным расчетам, потребуется 100 миллионов евро. Колоссальная сумма. Неужели в медицине нет других проблем, на решение которых следовало бы направить эти деньги?! Почему чиновники не могут лечиться вместе с простыми смертными? Что, им мало нынешней «лечкомиссии»?!

В прошлом году одна наша читательница, вынужденная по совету врача покупать гормональные препараты, необходимые после операции на щитовидной железе, в Германии, потому что в наших аптеках таких лекарств просто нет, в сердцах обронила фразу: *«В нашей стране надо хотя бы на год все остановить. Ничего не строить, не платить заоблачные суммы хоккеистам, не устраивать показушные рождественские турниры, а просто лечить людей».* Безусловно, останавливать все не надо, но спросить у властей, почему на медицину тратится всего лишь не менее 4% ВВП, как сказал Анатолий Тозик, следует. Интересно, когда-нибудь министр здравоохранения Василий Жарко задал этот вопрос президенту? Ведь 4% ВВП — это в разы меньше не только по сравнению с экономически развитыми странами, которые тратят на здравоохранение 7—11% своего ВВП. Даже в 1990-е, в самый жесткий кризис, в Беларуси эти цифры были выше — расходы на медицину тогда превышали 5% ВВП. Почему сейчас финансирование медицины ужали? Болеть белорусы стали меньше, к врачам обращаются реже? Результативность осмотров улучшилась? Все клиники и поликлиники страны оснащены необходимым и современным оборудованием? Зарплаты у всех категорий медиков высокие? Так ведь нет. В поликлиниках — очереди, на элементарное УЗИ сердца запись на полгода вперед. Врачи уже протестуют не только тихими увольнениями, они стали писать протестные письма, требовать повышения зарплаты. Но расходы на медицину в этом году решено оставить практически на прежнем уровне (в рублевом выражении, что в валютном выражении означает — сократить). Зато силовикам из госбюджета пойдет больше средств (?), чем в прошлом году. Так что, видимо, все идет к тому, что заботу о нашем здоровье власти действительно решили свалить на нас самих... Напрямую господин Тозик так не сказал, но именно такой вывод можно сделать из его слов.

Народная Воля http://www.nv-online.info
31 СТУДЗЕНЯ 2014 г.

ДАТЫ

Семен БУКЧИН

# Не бойтесь!

## Минуло 20 лет со дня смерти Алеся Адамовича



Дата пришлась на 26 января. И я хотел поспеть написать именно к ней. И с главным редактором договорился. Но встретил этот день в больнице. Теперь вот наверстываю...

Кажется, несколько месяцев назад в «Народной Воле» была опубликована моя заметка, посвященная выходу однотомника Алеся Адамовича в «Беларускім кнігазборы». И вроде все, что хотел сказать об Адамовиче, сказал и в том тексте, да и в других, ранее опубликованных. Но, наверное, невозможно сказать всё о человеке столь ярком, неординарном, так не похожем на других, каким был Алесь Адамович.

Я поискал в интернете сведения об откликах на 20-летие смерти автора «Хатынской повести» и «Карателей». Они были более чем скудными. Слава Богу, в Москве нашлись белорусы, вспомнившие о писателе, об этом рассказал на сайте «Нашай Нівы» Алесь Чайчиц. А вот у нас, в Беларуси... Что ж, у нас — как всегда. Почти полное равнодушие и беспамятство. Почти, потому что нашлись люди с совестью и памятью на родине Адамовича в поселке Глуша. Организовали специальные классные часы в тамошней школе, рассказали ученикам о знаменитом земляке, замечательном писателе, о его жизни и книгах. Но не было на этих скромных уроках ни одного представителя от районных, областных, не говоря уже о республиканских властей. Эти знают, кого и как нужно чествовать и помнить.

А на могилу писателя в тот же день, как поведала газета «Бобруйский курьер», пришли только глава местного поселкового Совета, библиотекарь и несколько молодых людей из Бобруйска. Они и возложили цветы. Не пришли на могилу писателя ни школьные учителя, ни их ученики. Но не будем слишком строги к людям, чьей смелости хватило хотя бы на проведение тех же классных часов, посвященных писателю-земляку.

Да что, собственно, толковать об активности местной интеллигенции, если в Глушу в тот день никто не приехал ни от Союза белорусских писателей, ни от Белорусского Пен-центра, учредившего когда-то премию имени Алеся Адамовича и наградившего ею некое число литераторов. Минск представлял один неугомонный Антон Астапович, руководитель Добровольного общества охраны памятников истории и культуры. Он надеется, что власти отважатся наконец выполнить свое обещание и открыть в уцелевшем здании старой поселковой аптеки, в которой работала мать писателя Анна Митрофановна, музей, посвященный истории «партизанки» этих мест и автору замечательных романов о формировавшейся в ту страшную пору молодой душе. Музей Войны и Жизни Алеся Адамовича.

Невольно подумалось: а может, и хорошо, что не приехал в эти дни никто ни от властей, ни от писательских организаций. Адамович был не любим ни теми, ни другими. И при жизни. И после смерти. И вот эти пять или шесть человек, положившие цветы к большому камню на его могиле в день 20-летия его смерти, это то, что ему действительно нужно. Это та реальная память, та правда жизни, которую он ценил больше всего и больше всего искал в людях. И как это было бы дико и ненатурально, если бы человек, именующий себя президентом и посылающий поздравление с днем рождения очередной российской поп-звезде, вдруг позвонил вдове писателя 84-летней Вере Семеновне или его дочери Наташе, много лет неустанно занимающейся творческим наследием отца, и сказал им несколько добрых слов или послал цветы от своего имени на могилу Алеся Михайловича.

«Но ведь это вам не Сталин, звонящий Пастернаку и интересующийся его мнением о Мандельштаме», — скажет мне сведущий в истории литературы читатель. «Да, конечно, не Сталин», — соглашусь я. Здесь мы имеем дело с явлением другого порядка как с точки зрения культуры, так и нравственности. Тем более трудно вообразить себе Сталина, посылающего приветственную телеграмму Киркорову.

Но ведь «линию Сталина» тем не менее учредил! — напомнят мне. Да, опять соглашусь я, учредил. Стремится, так сказать, быть «наследником». Но и «линия» эта не что иное, как продолжение все той же убогости.

Кстати, Сталин был ненавистнейшей фигурой для Адамовича. Наряду с Гитлером. И не случайно именно Адамовича и напечатавшую его антисталинистскую статью газету «Советская культура» потянул в суд харьковский прокурор-сталинист Шеховцов. Дело было давно, в конце 1980-х. Молодежь, естественно, ничего не знает, а старшему поколению должен помниться прогремевший тогда документальный фильм Аркадия Рудермана и Юрия Хащеватского «Встречный иск», посвященный этой истории. Выступая на проходившем в Москве судебном процессе, Адамович сказал замечательные слова, и по сей день вселяющие силу и надежду: «Пророк Моисей среди своих заповедей забыл упомянуть одну, очень важную: «Не бойтесь!»

Боялся ли он сам? Мысли о смерти, о возможной гибели тревожат юных героев его книг, наделенных несомненными автобиографическими чертами, Толю Корзуна из «Войны под крышами», Флеру Гайшуна из «Хатынской повести». Как забыть описанное с таким несогласием-неприятием вдруг пришедшее на самом взлете жизни небытие — гибель героя романа «Сыновья идут в бой», подростка, которому он доверил сокровенные мысли о жизни и смерти:

*«— Толю убили, — прорвалось сквозь звон, — мальчишку убили.*

*Меня? Меня убили? Они все там... Вот как это бывает! Значит, это так бывает! Чья это каска, такая огромная?.. Дыра... В моей не было... Нет, это моя... Через нее... Через эту дыру! Если бы не это... За руку попрощался, ненадолго...*

*— Коленик, автомат подбери!*

Это еще услышал Толя. Но это там, где они все, где нет его, НАВСЕГДА НЕТ, и где еще что-то происходит...»

Он хотел попрощаться с читателями, с родными и друзьями в книге «Vixi» («Прожито»), этой поразительной по откровенности чувства и мысли эссеистике, наполненной предельными по искренности рассуждениями и сомнениями, попыткой осмысления своей жизни и смерти как итога неясного, непонятного, но неотвратимого и потому понуждающего думать о ней, как о важнейшем явлении в жизни человека. Здесь он особенно близок к не просто любимому — почитаемому им Толстому. Толстовский пантеизм созвучен автобиографическим настроениям, характерным для его прозы. Натура активная, деятельная, он гнал от себя мысли о смерти, не мог согласиться с тем, что его НАВСЕГДА НЕТ. Но когда пришло понимание близкого рубежа, он с толстовской страстностью стал вглядываться в себя, в свою человеческую суть.

Он хотел остаться с нами, хотел, чтобы кто-то подобрал его автомат. Хотя какой он автоматчик? Человек сугубо штатский, в очках... Белорус до мозга костей, он впитал в себя лучшие гуманистические заветы русской классической литературы. И это подняло его фигуру на европейские высоты. Разоблачитель разных «мифов» на белорусском «Радыё Свабода» как-то попытался при услужливом поддакивании одного философа разоблачить и «миф великой русской литературы». Поэтому понятно, почему на «Свабодзе» не заметили 20-летия смерти Адамовича. «Не свой». И нужно быть благодарным «Нашай Ніве» и за упомянутое уже сообщение Алеся Чайчица и особенно за выставленные на сайте газеты два документальных фильма об Адамовиче — уже упоминавшийся «Встречный иск» и не менее замечательную работу 1997 года, «Кардиограмму» Михаила Ждановского (сценарий Лилии Брандобовской). Не забудем и о материалах, посвященных писателю, прошедших в эти дни на «Белсате».

Люди с памятью и совестью стремятся напомнить, особенно молодому поколению, об Алесе Адамовиче. И молодые могут спросить: «А каким он был?» В «Кардиограмме» о нем вспоминают Брыль, Быков, Кузьмин (секретарь ЦК КПБ), Окуджава... Часто вспоминаю своего старшего друга и я. Он был очень не похожий на других. Какая-то основательность и крестьянская хватка сочетались в нем с идеализмом, романтические настроения соседствовали с трезвыми оценками... И над всем царила неудержимость духа, рвавшегося к самовыявлению, к жизненной и творческой свободе. Все-таки не хватает мне слов...

20 лет — немалый срок со времени смерти писателя. Старый историк литературы, проведший большую часть жизни в библиотеках и архивах, я знаю, как быстро время запорашивает память о когда-то громких именах, авторах многих книг и собраний сочинений. Алесь Адамович по-прежнему с нами. Невозможно забыть, вычеркнуть из истории кино и самой Беларуси поставленный Элемом Климовым фильм «Иди и смотри». И не зря такой строгий критик, как Сергей Дубавец, посвятил ему прекрасную статью. Не случайно в Купаловском идет спектакль по его повести «Немой». Выходят книги. Об издании «Беларускага кнігазбора» я писал. И вот буквально на днях ждем выхода в минском частном издательстве «Попурри» его «Карателей» с потрясающими иллюстрациями Арлена Кашкуревича. В Петербурге выходит новое издание написанной вместе с Даниилом Граниным «Блокадной книги», оно дополнено материалами из личного архива Адамовича. В прошлом году в Лондоне в переводе на английский вышла «Хатынская повесть». Кстати, это произведение американский историк Тимоти Снайдер, великолепный знаток той части Восточной Европы, которую составляют Беларусь, Литва, Украина и Польша, назвал лучшим военным романом XX века.

*Там* ценят. А у нас? Ни одного государственного издания ни к 20-летию смерти, ни за предшествовавшее десятилетие. В Москве на здании в Большом Козихинском переулке висит мемориальная доска (установлена еще в 1996 г.). Там есть куда прийти поклониться. А в Минске? Здесь озабочены тем, как бы не пропустить юбилей Баскова или того же Киркорова.

Такая власть, такая культура.

Что ж*, у них* свои поп-идолы.

А мы будем помнить об Алесе Адамовиче. Он с нами. Своими книгами, статьями. Своей чернобыльской публицистикой и надеждами на новую, демократическую Беларусь. Всей своей беспокойной, открытой людям душой.

Будем помнить о его призыве: «Не бойтесь!»

БЛІЦ

# Колькі вас, партыйцаў?

***Усе ведаюць пра негатыўнае стаўленне сённяшніх улад Беларусі да дэмакратычных партый. Але адукаваныя людзі разумеюць: без іх развіцця, без іх актыўнага ўдзелу ў грамадска-палітычным жыцці краіны немагчыма нават марыць пра перамены ў лепшы бок, пра вызваленне Айчыны ад аўтарытарнага рэжыму.***

***Вось чаму шырокую грамадскасць не могуць не цікавіць адказы лідараў дэмпартый на наступныя пытанні:***

### *1.Колькі на сённяшні дзень сяброў (членаў) налічвае ваша партыя?*

**Сяргей КАЛЯКІН**, **старшыня Партыі левых «Справядлівы свет»:**

— Наша партыя афіцыйна налічвае каля 1200 чалавек. Але калі лічыць так, як мы лічым, то ў нас каля 5000 сяброў.

**Юрась БЕЛЕНЬКІ, намеснік старшыні Кансерватыўна-Хрысціянскай партыі — БНФ:**

— Афіцыйна мы падаём звесткі, што ў нас каля 1500 чалавек. Ёсць яшчэ каля 150—200 прыхільнікаў партыі, якія афіцыйна не з'яўляюцца яе сябрамі, але ўдзельнічаюць у партыйных мерапрыемствах.

**Ірына ВЕШТАРД, лідар БСДП (Грамада):**

— Па спісачным складзе, які мы прад'яўляем у Міністэрства юстыцыі, —1200. Рэальна, думаю, нашых сяброў больш.

**Анатоль ЛЯБЕДЗЬКА, старшыня Аб'яднанай грамадзянскай партыі:**

— Афіцыйна АГП налічвае 3600 чалавек.

**Аляксей ЯНУКЕВІЧ**, **старшыня Партыі БНФ:**

— Па тых звестках, якія мы маем і афіцыйна перадаём у Міністэрства юстыцыі, — каля паўтары тысячы. А калі казаць пра базу нашых актыўных прыхільнікаў, то прыблізна 6 тысяч.

**Станіслаў ШУШКЕВІЧ, старшыня Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады:**

— У нашай партыі 3660 сяброў. Гэта камп'ютарны спіс. Калі трэба раптам мабілізаваць актывістаў, то мы можам максімум мабілізаваць 100—150 чалавек, бо ўсе ж людзі працуюць.

### *2.Якая дынаміка адбылася ў 2013 годзе са складам вашай партыі — пашырыліся яе шэрагі ці скараціліся, назавіце канкрэтныя лічбы?*

**Сяргей КАЛЯКІН:**

— Летась мы павялічыліся. Мы прынялі 200 чалавек, а 180 чалавек — гэта натуральнае змяншэнне. Такім чынам нас стала на 20 чалавек болей. Для Беларусі гэта даволі станоўчы паказчык. Мы па меншай меры не памяншаемся.

**Юрась БЕЛЕНЬКІ:**

— Захаваны статус-кво. Структурна ў нас стала больш моладзі.

**Ірына ВЕШТАРД:**

— За мінулы год партыя павялічылася на 30 чалавек. Здавалася б, гэта нямнога. Але калі ўлічыць сённяшнія абставіны, умовы, у якіх мы вымушаны існаваць, то як лідар партыі ўспрымаю такую дынаміку спакойна. Хаця разумею, што радавацца няма чаму. Калі шчыра, хацелася, каб шэрагі партыі разрасліся хаця б да паўтары тысячы чалавек.

**Анатоль ЛЯБЕДЗЬКА:**

— У 2013 годзе на 170 чалавек нас стала болей. Але гэта не самы лепшы паказчык. Звычайна пасля выбарчых кампаній у АГП уступае значна больш людзей. Напрыклад, пасля парламенцкіх выбараў 2008 года толькі ў невялічкім гарадзе Бяроза Брэсцкай вобласці ў шэрагі АГП уступілі 50 чалавек.

**Аляксей ЯНУКЕВІЧ:**

— У мінулым годзе да Партыі БНФ далучылася каля 300 чалавек, заявы на выхад напісалі адзінкі. Але калі казаць аб'ектыўна, то бывае, што чалавек і не піша заявы, але адыходзіць ад спраў партыі. Што тычыцца матываў, па якіх людзі сыходзяць афіцыйна, — яны розныя. Але ў асноўным — працаўладкаваўся на дзяржаўную працу і хоча мець гарантаванае пацвярджэнне, што не з'яўляецца сябрам Партыі БНФ. Здараецца, калі людзі кажуць, што хочуць быць сябрамі больш радыкальнай арганізацыі.

**Станіслаў ШУШКЕВІЧ:**

— У нас крыху памаладзеў склад. У нашай партыі штмат заслужаных людзей.

### *3.Якія магчымасці маюцца ў партый, каб прымусіць улады змяніць адмоўнае стаўленне да дэмакратычных партый на станоўчае?*

**Сяргей КАЛЯКІН:**

— Ва ўлад ніколі не будзе станоўчага стаўлення да дэмакратычных партый. Дыктатура заўсёды будзе адмоўна ставіцца да любой апазіцыйнай праявы. Трэба змяніць сутнасць дыктатуры на дэмакратыю. Мы такім вар'яцтвам не займаемся. Наша задача — займацца людзьмі, каб яны разумелі, чым дэмакратычныя асновы лепшыя за дыктатуру. Людзі павінны клапаціцца, каб ва ўладу прыходзілі тыя, хто будзе дзейнічаць у іх інтарэсах.

**Юрась БЕЛЕНЬКІ**:

— У Беларусі існуе прамаскоўская ўлада. Маскоўская ўстаноўка ў дачыненні да Беларусі зразумелая. А як сляпыя выканаўцы могуць мяняць ці не мяняць сваё стаўленне да дэмакратычных партый? Калі б яшчэ ўлада была цалкам беларуская, то можна было пра нешта такое разважаць.

**Ірына ВЕШТАРД**

— Я некалькі па-іншаму гляджу на дадзеную праблему. На мой погляд, для партыі галоўнае — знайсці магчымасці і рычагі, як палепшыць стаўленне нашага народа да апазіцыйнай партыі. А як улада ставіцца — гэта не самае галоўнае. На тое яна і ўлада, каб бараніць свае інтарэсы. Па вялікім рахунку, улады нідзе не любяць іншадумства. А вось як ставяцца простыя людзі да партыіі — гэта важна. І мне падаецца, што толькі шчырая праца з насельніцтвам, імкненне знайсці нейкае паразуменне, сустрэчы з людзьмі — гэта тое, што можа даваць плён. Ведаю гэта з уласнага вопыту. Я шмат разоў была дэпутатам мясцовага Савета і дакладна ведаю, што людзі за мяне галасавалі таму, што я з імі сустракалася, працавала...

**Анатоль ЛЯБЕДЗЬКА:**

— Улада ніколі не будзе рабіць нешта добрае для сваіх апанентаў. Яна можа толькі ваяваць з імі. Трэба апеляваць да людзей, а не да ўлады.

**Аляксей ЯНУКЕВІЧ:**

— Не трэба, каб стаўленне ўлад мянялася з адмоўнага на станоўчае. Галоўнае, каб закон выконваўся і не чыніліся незаконныя перашкоды. Калі не будзе незаконных перашкод, партыі будуць развівацца нармальна.

**Станіслаў ШУШКЕВІЧ:**

— Калі чалавек трымаецца за ўладу без усялякай логікі, то можа быць толькі крах гэтай улады. Трымацца за ўладу — не рабіць нічога людскага. Можна гуляць у хакей, рабіць там нешта для чэмпіянату, вазіць сына без ведама маці ці яшчэ нечым забаўляцца. Уздзейнічаць на дзяржаву, каб яна змяніла сваё стаўленне да апазіцыйнай партыі, немагчыма. У Лукашэнкі няма іншага імкнення, акрамя як захаваць уладу. І ад нас толькі пасля апошніх выбараў колькі народу з'ехала за мяжу.

**Апытанне праводзілі Любоў ЛУНЁВА, Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

СТАТИСТИКА

# Знаете ли вы, что…

По статистике, сегодня на каждого белоруса приходится в среднем 24,7 кв. метра жилья. В Минске обеспеченность жильем самая низкая по сравнению с другими регионами — 20,8 кв. метра на человека. При этом в сравнении со странами-соседками это не худший показатель (на одного россиянина приходится 23,5 кв.м). Однако западные стандарты жизни оставляют нас далеко позади. Обеспеченность жильем в Германии равна 43 кв. метрам на человека, в США — 69,7, а в Норвегии — более 74 кв. метров.

ЗНАЁМЦЕСЯ!

# Новы старшыня ПАСЕ



Старшынёй Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы абрана лідар групы «Альянс лібералаў і дэмакратаў за Еўропу», люксембургскі палітык **Ганна Брасэр.**

Яна ўзначаліла ПАСЕ паводле вынікаў тайнага галасавання, у якім яе кандыдатуру падтрымалі 165 дэпутатаў з 317. Упершыню за доўгія гады спікера ПАСЕ абіралі на альтэрнатыўнай аснове, а не зацвярджалі паводле прынцыпу ратацыі паміж палітычнымі групамі.

Ганна Брасэр працуе ў асамблеі з 1993 года. Групу «Альянс лібералаў і дэмакратаў за Еўропу» яна ўзначаліла ў 2009 годзе.

Дарэчы, тэрмін паўнамоцтваў кіраўніка ПАСЕ складае адзін год з магчымасцю аднаразовага прадаўжэння на год.

НЕЗАВИСИМАЯ ЭКСПЕРТИЗА



# Псевдосоциальный бюджет

*Борис ЖЕЛИБА, профессор, доктор экономических наук*

Текст Закона «О республиканском бюджете на 2014 год» наконец стал доступен широкой общественности. Попробую проанализировать его расходную и доходную части по составу и структуре и в сравнении с аналогичными бюджетами, принятыми на 2013 год и на 2011-й — первый год текущей пятилетки. В предлагаемой ниже таблице показаны отдельные, наиболее, на мой взгляд, значимые доходные и расходные статьи трех бюджетов. Их можно сравнить как по абсолютным суммам, так и по удельному весу в итоговых значениях и попытаться выявить те или иные тенденции, которые могут подсказать, куда или откуда ветер дует и как власти предусматривали делить «бюджетный пирог» в начале и ближе к концу пятилетки. При этом следует исходить из того, что фактическое выполнение бюджета в Беларуси в целом весьма близкое к тому, что запланировано. Хотя есть и исключения. Сразу отмечу, что по абсолютным значениям данные трех бюджетов показывают бурный рост. Особенно если отталкиваться от значений бюджета 2011 года. Однако не будем обольщаться: здесь веское слово всегда говорит инфляция.

В доходной части бюджетов 2013-го и 2014 годов удельный вес налоговых доходов по сравнению с бюджетом 2011 года снизился, равно как, соответственно, и повысилась доля неналоговых поступлений. Это структурное изменение надо оценить как положительное, поскольку большую часть неналоговых доходов дают (или должны давать) средства от продажи и аренды госимущества. Это показывает движение в экономике в сторону приватизации. Но вот в бюджете 2014 года удельный вес неналоговых поступлений предусмотрен ниже, чем в бюджете 2013 года. Если в доходах бюджетов 2011-го и 2013 годов удельный вес НДС и акцизов как косвенных налогов держался на уровне примерно 57%, то их доля в бюджете 2014 года запланирована уже в размере 68,5%. Эти налоги, как известно, реально берутся из карманов плательщиков, в том числе населения. Следовательно, властью взят курс на их дальнейшее выворачивание.

А вот с прямым налогом на доходы и прибыль субъектов хозяйствования дела обстоят плохо. После 2013 года его доля вновь понижена до 6,3%, что говорит об устоявшейся тенденции снижения прибыли и эффективности работы белорусских предприятий. С доходами от внешнеэкономической деятельности тоже неважно. Их удельный вес в бюджете 2014 года (20,3%) вернулся на исходные позиции бюджета 2011 года (21,7%). Даже их абсолютная сумма на текущий год, которая запланирована в размере 26,1 трлн рублей, меньше прошлогодней (29,8 трлн рублей). Надо думать, разработчики бюджета трезво учли возможности белорусского экспорта на этот год после «калийной войны» и ограничений поставок нефти Россией.

При анализе структуры расходной части республиканских бюджетов легко усмотреть бурный рост удельного веса статьи «общегосударственная деятельность». С 43,7% начала пятилетки она подскочила до 52,7% уже в 2013 году и продолжает закрепляться на достигнутых позициях. Понятно, здесь бурно растут расходы по обслуживанию государственного долга — с 2,4 трлн рублей в 2011 году до 8,3 трлн в 2013-м и 9,9 трлн рублей в 2014 году. Восстановили по сравнению с прошлогодним бюджетом в 2014 году свои позиции и силовые ведомства. Условно говоря, удельный вес чиновничье-силового блока вместе с долгами нашими тяжкими (пп.1—3) в расходах республиканского бюджета достиг 68,7%, тогда как в 2011 году его доля составляла 58,6%.

По сути, не растут (или почти не растут) доли расходов на здравоохранение, спорт, культуру, СМИ и образование, что весьма симптоматично. А с учетом резкого снижения по сравнению с 2011 годом удельного веса расходов на социальную политику доля социального блока (пп.5—9) сдулась с 22,3% до 19% расходов бюджета 2014 года. Все эти расходы планируются по остаточному принципу и давно стали пасынками для власти. То, что определенные суммы на аналогичные затраты содержатся в местных бюджетах, сути выводов не меняет, поскольку роль этих бюджетов в данной сфере жизни незначительна. Положение статьи «национальная экономика» также незавидное. Ее удельный вес по сравнению с началом пятилетки снизился. Однако это не относится к расходам на наше неэффективное сельское хозяйство.

Псевдосоциальную направленность белорусского государственного финансового плана можно увидеть и в ведомственной росписи расходов республиканского бюджета. Например, на Управление делами президента, куда входят достаточно успешные коммерческие предприятия, запланировано столько же расходов, сколько и на Фонд социальной защиты населения Минтруда и социальной защиты Республики Беларусь — 1,3 трлн рублей. В распоряжение ОАО «Сберегательный банк «Беларусбанк», который должен работать на чисто коммерческой основе, предусмотрено 8,2 трлн рублей, а для Министерства здравоохранения — 5,5 трлн, МВД выделено 4,8 трлн рублей, а Министерству образования — 3,8 трлн рублей.

А может, так и надо, господа белорусы? Заинтересованные «профессионалы» нам это аргументированно докажут. Но против «цифири» тоже не очень попрешь. Структурные тренды явно отражают направленность белорусского бюджета. Особенно если сравнивать республиканские бюджеты 2011-го и 2014 годов. Достаточно хорошо просматривается, что структурные изменения направлены в сторону увеличения государственных расходов и, соответственно, уменьшения социальных обязательств государства. Они отражают увеличение налоговой нагрузки на потребителей, особенно на население. Бюджет текущего года не предусматривает роста эффективности экономики и интенсификации экспорта, зато виден рост государственных долгов. Вместо антикризисного бюджета нам преподнесли бюджет углубления социально-экономических проблем.

| N пп. | Наименование статей | 2011 год | | 2013 год | | 2014 год | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Сумма, трлн руб. | Удельный вес, % | Сумма, трлн руб. | Удельный вес, % | Сумма, трлн руб. | Удельный вес, % |
| | **ДОХОДНЫЕ СТАТЬИ** | | | | | | |
| 1 | Налоговые доходы | 30,0 | 89,0 | 102,7 | 84,4 | 108,0 | 84,0 |
| | в т.ч.: | | | | | | |
| | налоги на доходы и прибыль | 2,3 | 6,8 | 10,4 | 8,5 | 8,1 | 6,3 |
| | НДС | 13,5 | 40,2 | 41,3 | 33,9 | 45,8 | 35,6 |
| | акцизы | 5,4 | 16,1 | 16,4 | 13,5 | 22,7 | 17,7 |
| | налоговые доходы от внешнеэкономической деятельности | 7,3 | 21,7 | 29,8 | 24,5 | 26,1 | 20,3 |
| 2 | Неналоговые доходы | 3,6 | 10,7 | 19,0 | 15,6 | 15,2 | 11,8 |
| | ......................... | | | | | | |
| | Всего доходов | 33,6 | 100,0 | 121,7 | 100,0 | 128,6 | 100,0 |
| | **РАСХОДНЫЕ СТАТЬИ** | | | | | | |
| 1 | Общегосударственная деятельность | 17,3 | 43,7 | 64,1 | 52,7 | 64,8 | 50,4 |
| | в т.ч.: | | | | | | |
| | госорганы общего назначения | 1,1 | 2,8 | 3,4 | 2,8 | 3,9 | 3,0 |
| | обслуживание госдолга | 2,4 | 6,1 | 8,3 | 6,8 | 9,9 | 7,7 |
| 2 | Национальная оборона | 2,1 | 5,3 | 6,1 | 5,0 | 7,1 | 5,5 |
| 3 | Судебная власть, правоохранительная деятельность и обеспечение безопасности | 3,8 | 9,6 | 10,5 | 8,6 | 12,8 | 10,0 |
| 4. | Национальная экономика | 7,2 | 18,2 | 17,6 | 14,5 | 18,6 | 14,5 |
| | в т.ч.: | | | | | | |
| | сельское хозяйство и рыбохозяйственная деятельность | 1,2 | 3,0 | 6,8 | 5,6 | 7,5 | 5,8 |
| | промышленность, строительство, архитектура | 1,0 | 2,5 | 3,8 | 3,1 | 3,8 | 3,0 |
| 5. | Жилищно-коммунальные услуги и жилищное строитель ство | 0,04 | 0,1 | 0,1 | 0,08 | 0,1 | 0,08 |
| 6. | Здравоохранение | 1,6 | 4,0 | 5,3 | 4,4 | 5,7 | 4,4 |
| 7. | Физкультура, спорт, культура и СМИ | 0,7 | 1,8 | 2,4 | 2,0 | 2,3 | 1,8 |
| 8. | Образование | 2,1 | 5,3 | 6,6 | 5,4 | 6,6 | 5,1 |
| 9. | Социальная политика | 4,4 | 11,1 | 8,3 | 6,8 | 9,8 | 7,6 |
| | .................................... | | | | | | |
| | Всего расходов | 39,6 | 100,0 | 121,7 | 100,0 | 128,6 | 100,0 |

